ТОЛЬКІ ТАК!

# СПРАВАВОДСТВА па-БЕЛАРУСКУ!

Красавік 2012

Тэматычны неперыядычны дадатак да газеты "Гомельскія Навінкі"






## Вясновы этап футбольнага Кубка "Справаводства па-беларуску!" – 2012

*На фота - галоўны трэнер і галоўны мэнэджэр ФК СпБ-09*

**А таксама ў нумары:**

**Аб дзяржаўнай падтрымцы беларускай мовы ў Рэспубліцы Беларусь**

**Гамяльчане папулярызуюць беларускую мову ў крамах і на працы**

**"Справодства па-беларуску!" запыталася ў рэгіёнаў аб планах па беларусізацыі ў 2012 годзе.**

# Вясновы этап футбольнага Кубка "Справаводства па-беларуску!" – 2012

***У сярэдзіне красавіка 2012 года ў Гомелі прайшоў чарговы, Вясновы этап Кубка "Справаводства па-беларуску!"-2012 па футболе.***

У турніры прынялі ўдзел каманды ФК "СпБ-09" (каманда Грамадзянскай ініцыятывы "Справаводства па-беларуску!"), ФК "ПТК" (каманда сайта pytalnik.tk) і ФК "Замежныя Студэнты" (каманда замежных студэнтаў Гомеля). Таксама па-за канкурсам выступалі ФК "ГумНо" (каманда газеты "Гомельскія Навінкі"), уладальнік Кубка "Справаводства па-беларуску!"-2011 і ФК "ГП-Гомель" (каманда гомельскага аддзялення грамадзянскай кампаніі "Гавары Праўду".

Турнір праходзіў па схеме, калі кожная каманда павінна была згуляць з кожнай і пераможца вызначаўся па ліку набраных ачкоў. Гульня паміж ФК "СпБ-09" і ФК "Замежныя Студэнты" скончылася нічыёй з лікам 6 :6. Пасля гэтага ФК "Замежныя Студэнты" перамаглі ФК "ПТК" у цяжкой барацьбе з лікам 5:2, а ФК "СпБ-09" разграміла ФК "ПТК" з лікам 13:0. Апошні матч стаўся самым рэзультатыўным на турніры.

У выніку ФК "СпБ-09" і ФК "Замежныя Студэнты" набралі роўную колькасць ачкоў (па чатыры) і было



***Брамнік каманды ФК "СпБ-09"***

прынята рашэнне згуляць дадатковы матч з аднаго тайму для выяўлення пераможцы. У гэтым матчы з лікам 2:1 перамаглі гульцы ФК "СпБ-09" і атрымалі Вялікі Кубак Вясновага этапа "Кубка "Справаводства па-беларуску!"-2012. Сярэдні Кубак атрымаў ФК "Замежныя Студэнты", а Малы – ФК "ПТК", які заняў 3-е месца.

У час матчу паміж ФК "СпБ-09" і ФК "ПТК" адзін з гульцоў "ПТК" атрымаў траўму, але пасля таго, як атрымаў медыцынскую дапамогу зноў увайшоў у гульню. За гэта ён быў узнагароджаны Прызам "За Самаадданасць". Што цікава, пры разыгрыванні Кубка "Справаводства па-беларуску!"-2011 Прыз "За Самаадданасць" атрымала таксама каманда ФК "ПТК", але поўным складам.

Больш за ўсё галоў у матчы забіў ФК "СпБ-09" – 21 мяч. Яны таксама меньш за ўсё і прапусцілі – толькі 7 мячоў. За гэта брамнік ФК "СпБ-09" быў прызнаны самым карысным гульцом турніра.

Удзельнікі турніра атрымалі памятныя падарункі.

Турнір арганізоўвала Грамадзянская ініцыятыва "Справаводства па-беларуску!", сябра Асамблеі НДА (Літва).

"Вельмі ўсцешаны, што Кубак "Справаводства па-беларуску!" стаў рэгулярным і нават атрымаў развіццё – у гэтым годзе ён складаецца з чатырох этапаў – Зімовага, Вяснавога, Летняга і Асенняга, таксама Фіналу, які традыцыйна адбудзецца на Каляды. Вельмі прыемна, што зараз удзельнічалі не толькі беларусы., але і прадстаўнікі іншых нацыянальнасцей, цэлая каманда замежных студэнтаў. Гэта ўсё паказвае, што праз беларускую мову можна данесці любую інфармацыю, беларуская мова гэта жывы і яскравы феномен і яна цікава ўсім. Зрэшты, дзеля папулярызацыі беларускай мовы мы і праводзілі гэты турнір", – адзначыў адзін з ініцыятараў Грамадзянскай кампаніі Справаводства па-беларуску!" Ігар Случак.

"Вясновы этап атрымаўся




вельмі добрым і тут няма нічога дзіўнага – мы ўзялі першае месца! Гэта быў вельмі напружаны турнір, усё вырашылася ў дадатковым матчы, чаго раней не было. Хочу падзякаваць ФК "Замежныя Студэнты" – без іх турнір такім, якім ён адбыўся , не атрымаўся б. Яны прыўнеслі ў яго вылікую інтрыгу і нечувалыя эмоцыі. Ну і канечне, я дзякую сваёй камандзе пераможцы, ФК "СпБ-09", асабліва брамніку, які згуляў проста выдатна, быў сапраўды ці не паловай каманды. І канечне, трэба адзначыць ФК "ПТК" – яны змагаліся вельмі самааддана", – адзначыў Галоўны трэнер ФК "СпБ-09" Яўген Мароз.



***Каманда ФК "ГумНо"***

## Вясновы этап футбольнага Кубка "Справаводства па-беларуску!" – 2012. Працяг




Першы Кубак "Справаводства па-беларуску!" быў разыграны перад каталіцкімі Калядамі ў 2011 годзе. Тады перамогу святкавалі футбалісты ФК "ГумНо". У 2012 годзе Кубак праводзіцца ў 4 эпаты, па выніках якіх тры лепшыя каманды трапляюць у фінал, дзе да іх далучаецца уладальнік Кубка-2011. Удзел к Кубку-2012 можа прыняць любая каманда і з любога этапа.

Яшчэ 354 фота па спасылцы http://vk.com/album-19441275_155922986



І самі Кубкі крупным планам па спасылцы http://vk.com/album-32983171_148504486

А таксама 27 видэа-ролікаў з турніра па спасылцы http://vk.com/videos-19441275?section=album_42961310

*http://dzedzich.org*

## Аб дзяржаўнай падтрымцы беларускай мовы ў Рэспубліцы Беларусь

***Пастанову аб распрацоўцы гэтай канцэпцыі прыняла першая Рада ТБМ пасля 10-га з'езду ТБМ 26 кастрычніка 2008 года, сыходзячы з таго, што беларуская дзяржава, як вышэйшая форма арганізацыі беларускай нацыі нясе поўную і аднаасобную адказнаць за беларускую мову, а таму павінна ажыццяўляць заканадаўчую, фінансавую і арганізацыйную падтрымку беларускай мовы ў формах і аб'ёмах дастатковых для паўнавартаснага фукцыявання і дынамічнага развіцця беларускай мовы, забеспячэння прыярытэтных пазіцый беларускай мовы ва ўсіх сферах палітычнага, грамадскага і эканамічнага жыцця краіны.***

На працягу трох гадоў ішла праца над канцэпцыяй. На 11-ты з'езд ТБМ 23 кастрычніка 2011 года былі вынесены два варыянты канцэпцыі і была створана камісія для выпрацоўкі канчатковага кампраміснага варыянту. Апошні Сакратарыят ТБМ зацвердзіў такі кампрамісны варыянт і прадставіў у друк.

Чарговая Рада ТБМ 22 студзеня 2012 года разгледзіць шляхі і спосабы давядзення гэтай канцэпцыі да органаў дзяржаўнай улады самых розных узроўняў з задачай вынясення яе на разгляд адной з сесій Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь.

Трэба не забывацца, што сёлета ў Беларусі - выбары ў Нацыянальны сход, і задача сяброў Рады, каб найбольшая колькасць кандыдатаў у дэпутаты мела пункт аб прыняцці Закона ў сваіх праграмах.

*http://tbm-mova.by/*

## Гамяльчане папулярызуюць беларускую мову ў крамах і на працы

***Грамадзянская ініцыятыва "Справаводства па-беларуску!" пачала новую кампанію папулярызацыі беларускай мовы ў сферы абслугоўвання і рэкламы.***

Назва кампаніі — "Тут абслугоўваюць па-беларуску!". Для гэтага распрацаваны спецыяльны стыкер, які ахвочыя могуць наклеіць на сваю краму, шапік або дзверы працоўнага памяшкання, паведаміў БелаПАН каардынатар ініцыятывы Ігар Случак.

Мэта акцыі — дапамагчы і пакупнікам, і прадаўцам пераадолець моўны бар'ер, каб беларускамоўныя грамадзяне без стрэсу маглі ў пабытовых справах выкарыстоўваць беларускую.

Ахвочых далучыцца да кампаніі аўтар ідэі просіць адпраўляць замову на наклейкі ў асабістыя паведамленні карыстальніка http://vk.com/belaruski_spravavod. Там можна і спампаваць макет стыкера.

Пакуль толькі адзін прадпрымальнік пагадзіўся наклеіць яго на сваім шапіку.

*http://euroradio.fm/*

# “Справодства па-беларуску!” запыталася ў рэгіёнаў аб планах па беларусізацыі ў 2012 годзе.

***Аўтар ідэі грамадзянскай ініцыятывы “Справаводства па-беларуску!” звярнуўся да кіраўнікоў усіх раённых выканаўчых камітэтаў з запытам аб тым, якія мерапрыемствы і захады будуць прымацца і плануюцца прымацца ў 2012 годзе з мэтай папулярызацыі і развіцця беларускай мовы на тэрыторыі падкантрольнай ім адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі, а таксама ці будзе павялічвацца ў іх працэнт беларускамоўнага справаводства.***

“Ініцыятыва “Справаводства па-беларуску!” пачыналася ў 2009 годзе іменна з перапіскі з райвыканкамамі, калі ім прапаноўвалася пераводзіць справаводства на беларускую мову. У некаторых адзінках гэта дало свій плён, а ў цэлым праз гэту перапіску быў у выніку зменены закон “Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб” па якому зараз адказы на беларускамоўны пісьмовы зварот павінны даваць па-беларуску. Таму мы не можам пакідаць без увагі гэтыя адміністрацыйна-тэрытарыяльныя адзінкі. Яны найбліжэй да народа, напрамую сутыкаюцца з ім і бачаць, што яму патрэбна. І калі людзі сапраўды захочуць больш беларускай мовы іменна кіраўніцтва райвыканкамоў будзе тым правадніком, што пашырыць інтэнсіўнасць і аб’ём выкарыстання беларускай мовы. А калі гэта адбудзецца ў адным раёне, падтрымаюць і астатнія. У сваю чаргу мы будзем рады дапамагчы ім у развіцці нашай дзяржаўнай беларукай мовы”, - мяркуе Ігар Случак.







Гарамадзянская ініцыятыва “Справаводства па-беларуску!”, сябра Асамблеі НДА (Літва) займаецца лабіраванннем змен у заканадаўстве, накіраваных на падвышэнне статуса і заканадаўчай абароны беларускай мовы. У 2012 годзе прыярытэтнымі для кампаніі з’яўляюцца накірункі забеспячэнне беларускай мовы ў сферы рэкламы, камунікацыі, культуры і адпачынку.

*Прэс-рэліз грамадзянскай ініцыятывы “Справаводства па-беларуску!”*





Тэматычны неперыядычны дадатак да газеты "Гомельскія Навінкі" *“Справаводства па-Беларуску!”*
Уладальнікі выдання ***M&S Media***

Заснавальнік: *Францыск Піцерскі*
Галоўны рэдактар: *Алесь Пыхаў*
Карэктар: *Мікола Хмызняк*
Галоўны дызайнер: *Аляксей Венецыянаў*

246050, г. Гомель, вул. Пуліхава, 17, рэдакцыя “Гомельскія Навінкі - Справаводства па-Беларуску”

Надрукавана на Папяровай фабрыцы “ГумНо”, г. Клінцы, вул. Мажаеўская, 17б.

Тыраж: 250 асобнікаў.

Распаўсюджваецца безкаштоўна.




**Архіў газеты "Справаводства па-беларуску!" ў Беларускай інтэрнэт-бібліятэцы KAMUNIKAT:**
http://kamunikat.org/spravavodstva_pa_bielarusku.html
**Архіў УКантакце:** http://vk.com/docs?oid=-19441275
*Мы ў сацыяльных сетках:*
***vkontakte.ru:*** http://vk.com/spravavodstva_pa_belarusku
***Аляксей Венецыянаў:*** http://vk.com/id167202367

Наш ***e-mail:*** **gnavinki@gmail.com**

M&S MEDIA